Przesyłka opłacona ryczałtem

Nr 41 (95) Чацьверг, 10-га Сьнежня 1925 г. м. Вільня Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
" " " 3 " 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno; ul. Niemiecka 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак на 1 стр. —20 гр.
за радок нонпарэля у тэксьце—25 гр.
на апош. стр.—15 гр.

## „ВЯЛІКІЯ" і „МАЛЕНЬКІЯ".

Сёньня мы друкуем успаміны аб слаўным, хаця і сумным, здарэньні нядаўнай мінуўшчыны—аб Слуцкім паўстаньні. Успаміны гэтыя мы зьмяшчаем у зьвязку з адбыўшымся ў „Вярхоўным Судзе Рэспублікі" працэсам камандзіра „1-га Слуцкага палка стрэльцоў" першай Беларускай Брыгады, падпалкоўніка Гаўрыловіча, якога бальшавіцкі суд прыгаварыў на 5 гадоў турмы „са строгай ізоляцыяй".

Мы добра ведаем, што значыць гэткая кара ў адносінах да рожных патэнтаваных пралетарыяў і комуністаў, засуджаных за звычайныя зладзействы; добра таксама ведаем, што значыць гэткая кара і ў адносінах да „каэраў" (контр-рэволюцыянэраў)... Але, гэткая мягкая кара (толькі 5 гадоў, а не безадкладны расстрэл!) ў адносінах да паўстанца злоўленага з аружжам у руках, нас вельмі зьдзівіла-б... калі-б мы не знаці аж за надта добра бальшавікоў!

Ня можа быць ніякага сумліву, што бальшавікі гэтак мягка засудзілі Гаўрыловіча толькі дзеля таго, каб не перапалохаць рэшты афіцэраў Брыгады, з якіх да гэтагачасу *ніхто* яшчэ не „зьмяніў вехаў" і не вярся на Бацькаўшчыну, пад уладу бальшавікоў.

І вось у зьвязку з гэтым працэсам мы хацелі-б зрабіць некалькі запытаньняў тым, хто нясе маральную адказнасьць як за самае Слуцкае паўстаньне, так галоўным чынам за няўдачу яго· Мы хацелі-б зрабіць гэтыя запытаньня тым, што маюць сьмеласьць вялічаць сябе „барацьбітамі" за Бацькаўшчыну; тым, што ўпарта цьвердзяць, што толькі адны яны маюць права „ратаваць" Бацькаўшчыну; усім тым, што налепляюць самі сабе патэнтаваныя этыкеткі „беларускасьці", якія перад усім павінны былі-б быць цьвёрдымі і моцнымі ў сваіх пераконаньнях і якія ў адпаведны мамэнт аказваюцца гнуснымі і трусьлівымі эгоістамі, прадаючымі сваё нацыянальнае сумленьне і гонар за эканамічны дабрабыт.

Гэтую адказнасьць за Слуцкае паўстаньне нясуць, нядаўна капітуляваўшыя перад бальшавікамі, сябры „ураду" Ластоўскага. „Міністры" ураду Ластоўскага ў свой час шырока эксплёатавалі гэтае паўстаньне ў сваіх асабістых мэтах: яны выкарысталі яго для падняцьця свайго аўторытэту на міжнародным форуме.

Гэткую ж адказнасьць нясе і Віленскі „Бел-Ком", сябрамі якога зьяўляюцца здрайцы-зьменавехаўцы Пракулевіч, Жаўрыд і інш. Моральная вартасьць і нацыянальная ідэёвасьць гэтых „патэнтаваных" беларускіх „дзеячоў" гэткая, што ў мінуту цяжкага... матэрыяльнага палажэньня (як гэта была з Урадам Ластоўскага, якому Літва адмовіла ў грашавой дапамозе!) як дым разлетаецца і ўся іх ідэёвасьць. Усе гэтыя паны „зьменавехаўцы" бязумоўна займуць у бальшавікоў „пачэсныя" становішчы (хаця можа і ня зусім адпаведаючыя іхнім апэтытам, бо нават і бальшавікі не шануюць здрайцаў і перабежчыкаў), як і іншыя сябры Віленскага „Белкома", гэтак-жа сама ў сваім часе „прымазаўшыяся" да Слуцкага паўстаньня, а потым надта лёгка „зьмен авехнуўшыйся", як Жаўрыд, Карабач, і інш.

Дык вось, з аднаго боку мы бачым цэлую плеяду „дзеячоў" з патэнтаванымі імёнамі, з шматгадавым стажам „беларускасьці" маючых запэўненыя добрыя пасады ў бальшавікоў, з другога боку—маленечкі беларус, камандзір 1 Слуцкага палка вольнага беларускага войска, які за любоў да Бацькаўшчыны знаходзіцца ў „строгай ізоляцыі" бальшавіцкага засьценка...

І вось мы пытаемся, як гэтыя паны Пракулевічы, Жаўрыды і іншыя „барацьбіты" будуць тлумачыцца перад тымі бацькамі і маткамі, сыны якіх загінулі ў часе паўстаньня сьмерцьцю слаўных ад куляў тых катаў нашай Бацькаўшчыны, на службу да якіх ідуць цяпер яны — „правадыры", пасылаўшыя на сьмерць беларускіх паўстанцаў? Якое апраўданьне яны, карыстаючыяся цяпер з ласкі бальшавікоў, знойдуць перад гэтымі асірацелымі бацькамі? Якое апраўданьне яны знойдуць перад усім ларускім народам і гісторыяй? Ня гледзячы на тое, што ў свой час мы моцна і праконана змагаліся з Ластоўскім, цяпер мы шчыра прызнаём, што з усей гэтай „высокакваліфікаванай" прадажнай грамадзянскай накіпі, толькі адзін Ластоўскі аказаўся высокачэсным і праўдзіва—ідэёвым дзеячом. Ен прайграў сваю стаўку, але ён не прадаў сваіх пераконаньняў бальшавікам за сачывічную пахлёбку. Будучыну беларускага народа выкуюць толькі чыстыя рукі.

Не авантурыстычныя палітычныя экспэрымэнты, не рожныя „рэволюцыі", не надзеі на Лігу Народаў і рожныя „міжнародныя конгрэсы" і не ганебнае зьменавехаўства „правадыроў" прывядуць да вызваленьня беларускі народ.

А толькі ўпартая і цяжкая культурна адраджэнская праца, якую снуюць усюды на Беларусі яе культурныя працаўнікі, і безгранічная ахвярнасьць гэткіх маленечкіх беларусаў як Гаўрыловіч прывядзе яго да лепшай будучыны.

## † Сьмерць Рэймонта

**5. XII. 1925.**

У суботу 5 сьнежня памёр вядомы польскі пісьменнік Уладыслаў Рэймонт, які адзначыўся сваімі творамі з сялянскага жыцьця. Найбольш выдатным з яго твораў зьяўляецца раман „Сялы". У асобе У. Рэймонта Польская літэратура панясла вялікую утрату

## Судзяць Слуцкіх паўстанцаў.

Бальшавіцкая газэта „Звезда", у № 243, у артыкуле пад загалоўкам „Выздная сэсія „Вярхоўнага Суда Рэспублікі" піша:

„На прошлым тыдні выяздная сэсія Вярхоўнага Суда Рэспублікі разглядала справу двух белагвардзейцаў—Гаўрыловіча і Сяргеенка. Справа гэтая прадстаўляецца гэтак: Пачынаючы ад 1918 г., абвінавачаны Гаўрыловіч вёў актыўную барацьбу проці савецкае улады. Уступіўшы дабравольцам у армію Краснова, ён за вайсковыя „подвігі" (кавычкі „Звезды") атрымаў чын падпалкоўніка. У 1920 годзе, калі белая армія была разьбіта, Гаўрыловіч, у ліку іншых трапіў да нас у палон. Праз нейкі час ён паступае ў чырвоную армію (быў мабілізаваны! Рэд) і пасылаецца на заходні (польскі) фронт. У часе адступленьня чырвонай арміі, Гаўрыловіч застаўся ў вёсцы Дзюдзева і, пасьля заняцьця гэтай мейсцовасьці палякамі, прыняў актыўнае вучасьце ў арганізацыі беларускай брыгады, якая змагалася проці С.С.Р.Р. у інтарэсах Польшчы. Брыгада гэтая рабіла налёты на тэрыторыю Беларусі, расстрэлівала комуністаў і займалася грабежствамі. Калі бандыцкая брыгада была зьліквідавана, Гаўрыловіч паехаў у Варшаву, дзе пазнаёміўся з Булак-Балаховічам і Савінкавым. Даведаўшыся аб прошласьці падсудзімага і яго „арганізатарскай" здольнасьці, тыя запрапанавалі яму сфармаваць бандыцкі атрад у районе Клецка для налётаў. Гаўрыловіч прапазыцыю з прыемнасьцю прыняў. Атрымаўшы некалькі разоў значныя грашовыя сумы на ўтрыманьне бандыцкага атрада, Гаўрыловіч у 1923 годзе нелегальна перайшоў граніцу і прыбыў у Савецкую Беларусь. Аднак жа праявіць сябе ён не пасьпеў, бо быў затрыманы нашымі пагранічнікамі. Пасьля разгляду ўсіх матэрыялаў, выздная сэсія прыгаварыла Гаўрыловіча да пазбаўленьня свабоды на 5 гадоў са „строгай ізоляцыяй".

У той час, калі „там", на нашай Бацькаўшчыне, бальшавікі засудзілі камандзіра „Слуцкага палка стрэльцоў" першай нацыянальнай Слуцкай Брыгады, мы „тут" ня можам не падняць свайго голасу, каб аддаць чэсьць гінучаму аднабрыгадніку.

Гэты мамэнт мы лічым адпаведным, каб успомніць самае „Слуцкае паўстаньне", яго ідэолёгічныя падставы і прычыны яго няўдачы.

Слуцкае паўстаньне пачалося ў восені 1920 года. Гэта быў гістарычны мамэнт, калі беларускі народ у першы раз прачхнуўся і масай актыўна выступіў на барацьбу за вызваленьне сваей Бацькаўшчыны. Усе спробы здабываньня незалежнасьці дыплёматычнымі спосабамі, якія рабіла Рада Рэспублікі, паказалі, што без аружнай барацьбы, без нацыянальнай арміі, здабыць незалежнасьць немагчыма. І вось у мамэнт, калі на падставе Рыжскага міру, польскія войскі павінны былі аслабаніць тэрыторыю Случчыны, народ пастанавіў сам бараніць сябе, каб не дапусьціць новай бальшавіцкай навалы і паўстаў...

На чале паўстаўшага народу стала яго лепшая частка — яго інтэлігэнцыя, якая ў цяжкую для народа хвілю не страціла з ім жывой лучнасьці. На першы ж кліч зьявілася вясковая інтэлігэнцыя, якую сусьветная вайна парабіла афіцэрамі. У той час у Слуцку істнаваў „Слуцкі Беларускі Нацыянальны Камітэт", які кіравалі беларускія эсэры, з Жаўрыдам і Пракулевічам на чале. Гэты Бел. Ком. ад самага пачатку рабіў усё ад яго залежнае, каб перашкодзіць стыхійнаму паўстаньню, бо яно пярэчыла ўсей эсэраўскай ідэолёгіі, якая не дапускае аружнай барацьбы з „соцыялістамі-бальшавікамі". З прычыны гэтага ў адносінах да паўстаньня Бел.-Ком. заняў нэгатыўную пазыцыю. Аднак гэта не спыніла стыхійнага руху. Быў склікаш вялікі сход для перавыбараў Слуцкага Бел-Комт. Сход выдзяліў вайсковую групу, на чале з павятовым доктарам А. Паўлюкевічам, выбраным старшынёю новага Бел-Кома. Новы Камітэт прыступіў да арганізацыйнай працы. Па ўсіх кутках Случчыны былі разасланы афіцэры з паўнамоцтвамі районных начальнікаў для арганізацыі беларускай міліцыі. Добра разумеючы, што бяз вонкавай дапамогі вясьці барацьбу з бальшавікамі будзе немагчыма, Камітэт зьвярнуўся з просьбай аб дапамозе да таго народу, які толькі нядаўна сам здабыў сабе вольнасьць; да народу таксама змагаўшагася з бальшавікамі, якія хацелі пазбавіць яго гэтай вольнасьці; да народу, які, вуснамі свайго нацыянальнага Правадыра, загаварыў з беларус-

